Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР

20 СЬНЕЖНЯ 1927 г.

№ 18 (43)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР.
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## *Частка афіцыйная.*

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 1. Пастанова народных камісарыятаў Працы, Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

### АБ ПАРАДКУ ВЫРАШЭНЬНЯ ПРАЦОЎНЫХ СПРЭЧАК, ШТО ЎЗЬНІКАЮЦЬ НА ГРУНЦЕ ЎЖЫВАНЬНЯ НАЙМАВАЕ ПРАЦЫ ВУЧНЯЎ, ЯКІЯ ПРАЦУЮЦЬ У САМАТУЖНІКАЎ, РАМЕСЬНІКАЎ, У ПРАМЫСЛОВАЙ КАПЯРАЦЫІ І ПРАЦОЎНЫХ АРЦЕЛЯХ.

Для разьвіцьця арт. 19 пастановы ЦВК і СНК БССР за 21 мая 1927 г. „Пра зацьверджаньне правіл аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай капярацыі і працоўных арцелях“ (З. З. БССР 1927 г., № 27, арт. 126) Народны Камісарыят Працы, Народны Камісарыят Унутраных Спраў і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Спрэчкі, што ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наймавай працы вучняў, якія працуюць у саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай капярацыі і ў працоўных арцелях, могуць вырашацца ў народных судох або ў міравых камісіях, якія арганізуюцца ў акруговых гарадох пры акруговых інспэкцыях працы, у раённых гарадох—пры раённых выканаўчых камітэтах, у сельскіх мясьцовасьцях і мястэчках—пры сельскіх і местачковых саветах.

*Увага.* Справы аб парушэньні Кодэксу Законаў аб Працы могуць вырашацца толькі ў судовым парадку.

2. Заява, вусная або пісьмовая, аб жаданьні перадаць спрэчку на вырашэньне міравой камісіі перадаецца аднэю з старон у камэру інспэкцыі працы або ў раённы выканаўчы камітэт, або ў сельскі (местачковы) савет.

3. Камэра інспэкцыі працы, раённы выканаўчы камітэт, сельскі або местачковы савет, пасьля атрыманьня заявы аб разглядзе спрэчкі ў міравой камісіі, назначае пасяджэньне не пазьней, як праз 7 дзён ад дня атрыманьня заявы. Аб дні пасяджэньня міравой камісіі староны апавяшчаюцца пісьмова і пад расьпіску не пазьней, як за два дні да пасяджэньня камісіі.

4. Старшынёю міравой камісіі зьяўляецца: у акруговых гарадох—інспэктар працы, у раённых мясцовасьцях—член раённага выканаўчага камітэту, які кіруе работаю па працы, у мястэчках і сёлах—старшыня местачковага або сельскага савету.

Членамі міравой камісіі зьяўляюцца: ад вучня—ён сам або яго бацькі, апякуны або прадстаўнік адпаведнага прафэсіянальнага саюзу; ад наймальніка—ён сам або яго ўпаўнаважаны.

*Увага 1.* Пытаньне аб паўнамоцтвах прадстаўнікоў старон вырашаецца перад адчыненьнем пасяджэньня міравой камісіі.

*Увага 2.* Упаўнаважаны наймальніка павінен мець адпаведнае паўнамоцтва, якое даецца наймальнікам або вусна, перад пасяджэньнем камісіі з запісаньнем у пратакол, альбо ў пісьмовай форме.

5. Калі прадстаўнікі аднэй з старон не зьявяцца на разгляд канфлікту, то справа назначаецца на паўторны разгляд. Калі і другі раз не зьявяцца прадстаўнікі аднэй з старон, то справа можа быць перададзена кожнаю з старон на разгляд у адпаведны суд.

6. Усе спрэчкі, перададзеныя ў міравую камісію, вырашаюцца толькі пры згодзе старон. Старшыня міравой камісіі ня мае пастаноўчага голасу, а толькі кіруе пасяджэньнем і дапамагае старанам прыйсьці да згоды па ўсіх спрэчных пытаньнях і сочыць за тым, каб у прынятай згодзе ня было парушэньня дзейнага заканадаўства. Калі-ж няма згоды паміж старанамі, то спрэчка лічыцца нявырашанаю і можа быць перададзена кожнаю з старон у народны суд.

7. Пасяджэньні міравой камісіі адбываюцца адчынена.

8. На кожным пасяджэньні міравой камісіі павінен пісацца пратакол (паводле далучанай пры гэтым формы). Арыгінал пратаколу знаходзіцца ў тым органе, у якім вырашана справа, старанам-жа выдаюцца, па іх патрабаваньні, засьведчаныя копіі.

9. Усе дасягнутыя ў міравой камісіі згоды запісваюцца ў пратакол на тым пасяджэньні, на якім была дасягнута згода, і неадкладна падпісваецца старанамі і старшынёю міравой камісіі.

10. Згода, дасягнутая ў міравой камісіі і падпісаная старшынёю і абедзьвюма старанамі, зьяўляецца для старон абавязковаю і ня можа быць абскарджана.

11. Калі саматужнік, рамесьнік і арцель адмаўляюцца дабравольна выканаць падпісаную імі згоду, то раённы выканаўчы камітэт, местачковы або сельскі савет, бацькі, апякуны вучня або прафэсіянальны саюз перадае афіцыйна засьведчаную копію дасягнутай ў міравой камэры згоды разам з усім матар'яламі па гэтым канфлікце ў народны суд. Народны судзьдзя, упэўніўшыся у тым, што пастанова міравой камісіі не пярэчыць дзейнаму заканадаўству і што справа падсудна міравой камісіі, выдае выканаўчы ліст, на падставе якога пастанова выконваецца паводле ГПК.

*Увага 1.* Адмаўленьне народнага судзьдзі выдаць выканаўчы ліст можа быць абскарджана спаганяючаю асобаю ў парадку арт. 233 ГПК.

*Увага 2.* Парадак выкананьня пастаноў міравых камісій, што арганізуюцца пры акруговых камэрах інспэкцыі працы, вызначаецца паводле абежніку Н. К. Працы і Н. К. Юстыцыі за 27 лістапада 1925 г. № 69 „Аб парадку выкананьня пастаноў РКК“ (З. З. БССР 1925 года, № 44, арт. 360).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

15 лістапада 1927 г.

№ 86.

ДАДАТАК.

Узор пратаколу пасяджэньня міравой камісіі.

# ПРАТАКОЛ

пасяджэньня міравой камісіі пры ..........

за ..........

Перад пасяджэньнем камісіі ўстаноўлена, што канфлікт перададзены на вырашэньне міравой камісіі па згодзе старон. Да вырашэньня міравой камісіі належаць пытаньні (дакладна пералічыць, якія пытаньні).

Паўнамоцтвы членаў міравой камісіі да пасяджэньня праверany старшынёю міравой камісіі і былі правільнымі.

У пасяджэньні ўдзельнічалі:

ад вучня ..........

ад наймальніка ..........

Старшыня міравой камісіі

1) Заява вучня (запісаць прапанову)
2) Заява прафэсіянальнага саюзу (запісаць прапанову)
3) Заява наймальніка (запісаць прапанову)
4) Прапанова старшыні міравой камісіі (калі такая зроблена на пасяджэньні)

Пастанавілі:

Пасля разгляду пытаньня стораны прышлі да наступнай згоды (запісаць сутнасьць згоды).

Старшыня камісіі *(подпіс)*

Прадстаўнік саюзу *(подпіс)*

Вучань *(подпіс)*

Наймальнік *(подпіс)*

Калі на пасяджэньні прысутнічалі сьведкі, то аб гэтым адзначаецца ў пратаколе, паказаньні сьведак запісваюцца ў пратаколе.

Згода, якая запісана ў пратаколе, абавязкова падпісваецца заразжа пасьля пасяджэньня.

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ ВЫКАНАЛЬНЫХ ЛІСТОЎ ПА ПАСТАНОВАХ МІРАВЫХ КАМЭР.

*Усім інспэкцыям працы, і ўсім народным судом.*

Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануюць выконваць наступнае:

Устаноўлены абежнікам НК Юстыцыі і НК Працы БССР за 24

сьнежня 1926 г. № 22 (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 2) парадак выдачы выканальных лістоў па пастановах пасрэдніцкіх судоў пашырыць таксама на пастановы міравых камэр, што арганізуюцца пры Н. К. Працы і яго мясцовых органах для вырашэньня працоўных спрэчак паводле зацьверджанай СНК РСФСР 23 сакавіка 1923 г. і пашыранай на тэрыторыю БССР пастановаю СНК БССР за 4 мая 1923 г. „Палажэньня аб міравых камэрах і пасрэдніцкіх судох“ (З .З. БССР 1923 г., № 8, арт. 75).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

24 лістапада 1927 г.
№ 89.

## 3. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

АБ ПАРАДКУ СПАГНАНЬНЯ, ЗАХАВАНЬНЯ І ЗАЛІЧЭНЬНЯ Ў ДАХОД СКАРБУ СУМ, ЯКІЯ ПАСТУПАЮЦЬ ЗА ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫЯ І ПАЗЯМЕЛЬНА-РЭГІСТРАЦЫЙНЫЯ РАБОТЫ З 1-га КАСТРЫЧНІКА 1926 году, А ТАКСАМА АБ ПАРАДКУ ЛІКВІДАВАНЬНЯ СПЭЦЫЯЛЬНЫХ СРОДКАЎ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР ПА ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНІ ЗА МІНУЛЫЯ ГАДЫ.

*Выдана на падставе арт. 5 пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 7 сакавіка 1927 г. (прат. № 6).*

### I. Агульныя палажэньні.

§ 1. З 1-га кастрычніка 1926 г. выдаткі на платнае для землякарыстальнікаў земляўпарадкаваньне робяцца па дзяржаўным бюджэце БССР за рахунак каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства, у сувязі з чым усе плацяжы, якія паступаюць за работы па земляўпарадкаваньні з паказанага тэрміну, залічаюцца ў даход скарбу па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

*Увага.* Паказаны ў даным § парадак фінансаваньня платнага земляўпарадкаваньня па Гомельскай акрузе лічыцца з 1-га кастрычніка 1927 г.

§ 2. Спагнаньне плацяжоў з землякарыстальнікаў у абавязковым парадку за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы робіцца апаратам Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР у назначаныя тэрміны і ва ўстаноўленых разьмерах.

§ 3. У сувязі з паказаным у §§ 1 і 2 гэтэй інструкцыі, існаваўшыя спэцыяльныя сродкі па земляўпарадкаваньні да 1-га кастрычніка 1926 г., ліквідуюцца. На Народным Камісарыяце Земляробства ляжыць абавязак канчатковага разрахаваньня па спэцыяльных сродках, па актыву і па пасыву. На 1-е кастрычніка 1926 года і на 1-е кастрычніка 1927 г. Народны Камісарыят Земляробства БССР падае Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР справаздачу і балянс аб руху ліквідаваньня спэцыяльных сродкаў. Ліквідаваньне спэцыяльных сродкаў павінна быць скончана не пазьней 1-га красавіка 1928 г. з перадачаю Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР ліквідацыйнага балянсу.

*Увага.* Тэрмін ліквідаваньня спэцыяльных сродкаў па Гомельскай акрузе пераносіцца на 1-е кастрычніка 1928 г.

§ 4. Сумы, якія паступаюць ад зацікаўленых землякарыстальнікаў (грамад, вёсак, частак вёсак, каляктываў, асобных працоўных землякарыстальнікаў і іх груп, дзяржаўных устаноў, арганізацый, прадпрыемстваў і г. д.), за вядзеньне земляўпарадчых і пазямельна-рэгістрацыйных работ, а таксама за выдачу зямельных дакумэнтаў (плянаў, зямельных запісаў, выпісаў з рэгістрацыйных кніг і г. д.) і копій з іх, па характару свайго прызначэньня, могуць быць траякімі, а іменна:

а) сумы, якія ўносяцца для выплаты задоўжанасьці за работы, зробленыя да 30/IX 1926 г. уключна, ў адпаведнасьці з % выкананьня земляўпарадчых спраў на гэты тэрмін;

б) сумы, якія ўносяцца за работы, што вядуцца з 1-га кастрычніка 1926 г., па новых земляўпарадчых справах і па працягнутых выкананьнем у адпаведнасьці з % выкананьня іх на 1/X 1926 года, уключаных у аперацыйныя пляны работ, а таксама за выдачу даведак, земляадводных дакумэнтаў, копій плянаў і іншых выпадковых даходаў;

в) сумы, якія ўносяцца авансам у рахунак не пачатых яшчэ работ.

§ 5. Сумы, паказаныя ў п. „а“ § 4 гэтай інструкцыі, зьяўляюцца спэцыяльнымі сродкамі і павінны накіроўвацца на ліквідаваньне задоўжанасьці земляўпарадкаваньня па балянсу на 1-е кастрычніка 1926 г. і на іншыя патрэбы выдаткоўвацца ня могуць.

§ 6. Сумы, паказаныя ў п. „б“ § 4 гэтай інструкцыі, павінны залічацца ў даход скарбу па каштарысу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР у адпаведнасьці з % выкананьня земляўпарадчай справы за даны аперацыйны год.

§ 7. Сумы, паказаныя ў п. „в“ § 4 гэтай інструкцыі, залічаюцца ў адпаведнай скарбовай часьці або ў касе Народнага Камісарыяту Фінансаў на бяспроцантавы бягучы рахунак акруговага фінансавага аддзелу па рахунку: „Дэпазыты па плацяжох за земляўпарадчыя работы“ і могуць:

а) накіроўвацца ў даход скарбу па каштарысу бягучага году цалкам, калі работа выконваецца і будзе скончана, і ў часьці—у адпаведнасьці з % выкананьня работы;

б) зварочвацца плацельшчыкам, калі ў вядзеньні работы будзе адмоўлена або калі работа будзе спынена;

в) пакідацца на рахунках дэпазыту да будучага году, калі работа не пачата.

§ 8. Адзначаныя ў п. п. „а“, „б“ і „в“ § 4 сумы ўносяцца зацікаўленаю стараною ў скарбовыя часьці або ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў (беспасрэдна або праз раённыя касы) і залічаюцца на бяспроцантавы бягучы рахунак акруговага фінансавага аддзелу па дэпазытах плацяжоў за земляўпарадчыя работы, а стуль загадам адпаведнага акруговага фінансавага аддзелу, на падставе разрахункаў, якія падаюцца яму акруговымі зямельнымі аддзеламі, пакквартальна накіроўваюцца ў крыніцы, паказаныя ў §§ 5, 6 і 7, пры гэтым за I, II і III кварталы разрахункі павінны быць пададзены не пазьней 10-га дня першага пасьля кварталу месяца, а за IV квартал —не пазьней 10-га верасьня.

*Увага 1.* Сумы, якія ўносяцца за выдачу дакумэнтаў, даведак, плянаў і інш., залічаюцца беспасрэдна ў даход па каштарысу Народнага Камісарыяту Землеробства.

*Увага 2.* Раённыя касы прынятых сум не падлічаюць, а прынятыя грошы разам з арыгіналамі плацежных абвестак адсылаюць у скарбовыя часьці або ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў у тэрміны, устаноўленыя для адсылкі дзяржаўных даходаў.

*Увага 3.* Калі работа па аперацыйным пляне вядзецца і пасьля 1-га кастрычніка 1926 г. і па балянсе на 1-е кастрычніка 1926 г. за гэтаю работаю лічыцца нядоімка, то паступіўшыя ў распараджэньне акруговага фінансавага аддзелу сумы па данай рабоце накіроўваюцца ў першую чаргу на ліквідаваньне нядоімкі, а рэшта залічаецца ў плацяжы бягучага або будучага году.

§ 9. Плата за земляўпарадчыя і пазямельна-рэгістрацыйныя работы бярэцца паводле ставак і ў парадку, устаноўленым пастановаю Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 7-га сакавіка 1927 году.

## II. Парадак забясьпечаньня даходаў скарбу па каштарысу Народнага Камісарыяту Землеробства БССР плацяжамі за землеробчыя работы.

### *А. Пры падняцьці спраў і іх падрыхтоўцы.*

§ 10. Да хадайніцтва аб адпаведным вядзеньні земляўпарадчай або пазямельна-рэгістрацыйнай работы, якое прызнана раённым выканаўчым камітэтам належачым да выкананьня, абавязкова прыкладаецца квіт касы раённага выканаўчага камітэту, або скарбовай часьці, або касы Народнага Камісарыяту Фінансаў аб уносе па ўстаноўленай таксе 30 проц. плацяжоў за земляўпарадчыя работы, або 100 проц. кошту пазямельна-рэгістрацыйнай работы па разрахунку, зробленым раённым зямельным аддзелам, дапасавальна да § 23 гэтай інструкцыі.

§ 11. Калі паказаны ў папярэднім § квіт не прыкладзен да хадайніцтва або ўнесеная сума меншая за ўстаноўленыя разьмеры, то зямельныя органы паведамляюць заяўніка аб патрэбе ўнясеньня ўсяго першага ўносу і да ўнясеньня ўсяе сумы хадайніцтва астаецца без далейшага руху.

§ 12. Замест квіта скарбовай часьці, касы Народнага Камісарыяту Фінансаў або касы раённага выканаўчага камітэту, які прыкладаецца да хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні, зямельныя органы выдаюць на рукі заяўнікам расьпіску з паказаньнем у ёй №, даты і сумы паданага квіта касы Народнага Камісарыяту Фінансаў з адпаведнаю адзнакаю на квіце аб выдачы расьпіскі.

§ 13. Хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні, якое падаецца паводле арт. 163 Зямельнага Кодэксу, беспасрэдна ў Аддзел Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці Народнага Камісарыяту Землеробства БССР, пасылаецца для далейшага накіраваньня ў належныя акруговыя зямельныя аддзелы. Пры гэтым апошнія пасьля атрыманьня гэтых хадайніцтваў зараз-жа паведамляюць зацікаўленыя ў земляўпарадкаваньні стораны аб парадку разрахункаў.

§ 14. Хадайніцтвы, па якіх унесены ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў належачыя, паводле § 10 гэтай інструкцыі, плацяжы, накіроўваюцца да падрыхтоўкі ў парадку арт. 166 Зямельн. Кодэксу.

§ 15. Калі ў выніку падрыхтоўкі будзе прызнана, што справа можа быць назначана для далейшага выкананьня ў парадку арт. 167 Зямельнага Кодэксу, то акруговы зямельны аддзел пасылае старанам паведамленьне з тлумачэньнем сутнасьці праэктаваных работ і ўмоў аплаты іх і прапануе, калі будзе згода на паказаныя ўмовы выкананьня работ, унесьці ў касу Народнага Камісарыяту Фінансаў наступныя 30 проц. плацяжоў, якія прыпадаюць на долю кожнай стараны, з папярэджаньнем, што неўнясеньне такіх выкліча няўключэньне справы ў плян работ да выкананьня.

Адначасна з гэтым аналёгічныя паведамленьні пасылаюцца і ўсім іншым удзельнікам земляўпарадкаваньня, уключаным пры падрыхтоўцы ў дачу разьвярстаньня ў абавязковым для іх парадку, з прапановаю ўнесьці плацяжы, якія прыпадаюць на іх долю, зараз-жа і з папярэджаньнем, што ў выпадку адмаўленьня ад ўнясеньня плацяжоў яны будуць спагнаны, паводле арт. арт. 158—160 Зямельнага Кодэксу, прымусова ў бяспрэчным адміністрацыйным парадку.

*Б. Пры складаньні плянаў работ.*

§ 16. Забясьпечаньнем у поўным аб'ёме выдаткаў, якія робяцца за рахунак дзяржаўнага бюджэту на платнае земляўпарадкаваньне паступленьнямі адпаведных даходаў за работы зьяўляюцца асноўныя канкрэтныя і дадатковыя пляны работ для выкананьня, паводле агульнага гадовага вытворчага пляну Народнага Камісарыяту Земляробства БССР па земляўпарадкаваньні.

§ 17. Асноўныя пляны работ акруговымі зямельнымі аддзеламі складаюцца два разы ў год на паўгодзьдзі: на зімовы пэрыяд—з 1-га кастрычніка па 1-га красавіка і на летні пэрыяд—з 1-га красавіка па 1-е кастрычніка, з поўнаю ўвязкаю такіх з рэальнаю наяўнасьцю тэхнічных сіл на пачатак пэрыяду, матар'яльных сродкаў і ўстаноўленымі ў належным парадку нормамі вырабкі.

§ 18. Дадатковыя пляны работ акруговымі зямельнымі аддзеламі складаюцца на працягу справаздачных пэрыядаў толькі тады, калі выявіліся дадатковыя рэальныя магчымасьці пашырэньня асноўнага пляну работ, а іменна:

а) калі павялічыўся кадр тэхнічных сіл (пры ўмове забясьпечаньня выдаткаў па дзяржаўным бюджэце);

б) калі вызначыўся ход работ з посьпехам або скарачэньне адзначаных тэрмінаў выкананьня спраў па асноўным пляне работ і

в) калі з асноўнага пляну выпадаюць справы, якія спыняюцца выкананьнем.

§ 19. Пляны работ акруговым зямельным аддзелам складаюцца па ўстаноўленай адзінай форме з абавязковым іменным пералікам уключаных спраў і з паказаньнем проц. выкананьня кожнай справы на пачатак аперацыйнага пэрыяду. Пры гэтым, па ўсіх няскончаных да 1-га кастрычніка 1926 г. справах проц. выкананьня на 1-е кастрычніка 1926 г. павінен быць узгоднен з данымі заключнага балянсу спэцыяльных сродкаў земляўпарадкаваньня на 1-е кастрычніка 1926 г., а ў наступныя гады—з папярэднімі выканаўчымі плянамі.

§ 20. У асноўны і дадатковы пляны работ павінны ўключацца толькі справы, якія забясьпечаны плацяжамі, унесенымі землякарыстальнікамі, у разьмеры 60 проц. ад сумы, што павінна быць запла-

чана за ўвесь аб'ём належачых да выкананьня земляўпарадчых работ па справе, дапасавальна да § 9.

Адступленьні ад данага парадку дапушчаюцца ў выпадках: а) калі ўдзельнікі земляўпарадкаваньня па справе ўключаны ў дачу разьвярстаньня пры падрыхтоўцы ў абавязковым для іх парадку і б) калі ў кожным паасобным выпадку будзе дадзена папярэдняя згода органаў Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР на адступленьне ад агульнага парадку.

§ 21. Складзеныя і зацьверджаныя ва установленым парадку пляны работ акруговыя зямельныя аддзелы падаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы для кіраваньня пры падліку і пры спагнаньні даходаў і Народнаму Камісарыяту Земляробства да ведама ў тэрміны: асноўныя—не пазьней 15 кастрычніка і 15 красавіка кожнага году і дадатковыя—на працягу тыдня пасьля зацьверджаньня.

§ 22. Ні адна земляўпарадчая справа, няўключаная ў зацьверджаны асноўны або дадатковы плян работ, назначацца для выкананьня ня можа.

## III. Парадак разрахункаў і спагнаньня плацяжоў па работах, якія выконваюцца, скончаны і спынены.

§ 23. Разьмер першых 30 проц. плацяжоў, абавязковых для ўнясеньня пры падняцьці справы, паводле § 10 гэтай інструкцыі, раённы зямельны аддзел вызначае прыблізна, грунтуючыся на даных, якія ёсьць у яго, і вылічае такія ад грашовай сумы, што складае розьніцу паміж 100 проц. кошту работы па ўстаноўленых таксах і прыблізнаю сумаю зьніжэньня на бясплатнае земляўпарадкаваньне бядняцкіх гаспадарак па справе, аднак, ня больш як 35 проц. усяго кошту работ.

§ 24. Разьмер другіх 30 проц. плацяжоў, абавязковых для ўнясеньня да агульнага разьмеру 60 проц., паводле § § 15 і 20 гэтай інструкцыі, акруговым зямельным аддзелам вызначаецца прыблізна з падлікам патрэбнага зьніжэньня на бясплатнае земляўпарадкаваньне бядняцкіх гаспадарак.

Пры гэтым акруговы зямельны аддзел павінен ужыць усе захады да таго, каб да моманту ўключэньня спраў у плян работ да выкананьня па кожнай з іх былі-б складзены і зацьверджаны камісіяю раённага выканаўчага камітэту, паводле ўстаноўленай асобнаю інструкцыяю формы і парадку, сьпісы бядняцкіх гаспадарак, якія маюць права на поўнае або частковае звальненьне ад платы.

§ 25. Калі надыходзіць тэрмін прад'яўленьня земляўпарадчага праэкту насельніцтву, якое земляўпарадкоўваецца, г. зн. калі надыходзіць час ўнясеньня рэшты плацяжоў, то акруговы зямельны аддзел паведамляе аб гэтым насельніцтва і акруговы фінансавы аддзел і адначасна з гэтым складае канчатковы разрахунак, належачых да ўнясеньня плацяжоў.

Да гэтага часу акруговы зямельны аддзел павінен мець пастанову камісіі па дачы льгот, якою канчаткова зацьвярджаюцца іменныя сьпісы асоб і гаспадарак, звольненых ад аплаты работ, і сумы дадзеных льгот як пэрсанальна кожнай гаспадарцы, так і агульнай па справе. Пры гэтым зацьверджаныя сьпісы падаюцца ў акруговыя фінансавыя аддзелы разам з канчатковым разрахункам.

§ 26. Удзельнікам земляўпарадкаваньня для выплаты плацяжоў даецца двухтыднёвы тэрмін ад моманту ўручэньня паведамленьня

акруговага зямельнага аддзелу або органаў Народнага Камісарыяту Фінансаў.

§ 27. Ва ўсіх выпадках неўнясеньня ў тэрмін належачых плацяжоў і пасьля выходу двухтыднёвага льготнага тэрміну органы Народнага Камісарыяту Фінансаў спаганяюць такія ў бясспрэчным адміністрацыйным парадку на падставе арт. арт. 158—160 і 163 Зямельнага Кодэксу.

§ 28. Калі земляўпарадчыя справы, уключаныя ў плян работ, будуць спынены да зацьверджаньня земляўпарадчага праэкту, у парадку арт. 165 Зямельнага Кодэксу, то акруговы зямельны аддзел складае падрабязны і канчатковы разрахунак кошту зробленых работ у адпаведнасьці з проц. выкананьня справы да моманту спыненьня. Пры гэтым, калі сума ўнесеных плацяжоў не пакрывае сумы кошту работ па канчатковым разрахунку і сума, якой не хапае, ня будзе ўнесена добраахвотна на працягу двух тыдняў пасьля паведамленьня акруговага зямельнага аддзелу, то нехапаючая сума спаганяецца органамі Народнага Камісарыяту Фінансаў у бясспрэчным адміністрацыйным парадку. Калі-ж будзе пераплата, то такая неадкладна зварочваецца насельніцтву.

§ 29. Калі ў хадайніцтве аб земляўпарадкаваньні адмаўляецца, у парадку арт. 167 Зямельнага Кодэксу, або калі старана, падняўшая хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні, не ўнясе ў вызначаны тэрмін да 60 проц. належачых плацяжоў, паводле §§ 15 і 20 гэтай інструкцыі і, з гэтай прычыны, земляўпарадчая справа не назначаецца да выкананьня, то акруговы зямельны аддзел складае поўны і канчатковы разрахунак кошту зробленых работ і паведамляе аб гэтым зацікаўленых землякарыстальнікаў і органы Народнага Камісарыяту Фінансаў для ліквідаваньня разрахунку ў парадку § 28.

§ 30. Ва ўсіх выпадках канчатковых разрахункаў па спыненых земляўпарадчых справах акруговыя зямельныя аддзелы для вызначэньня разьмеру плацяжоў, належных у адпаведнасьці з проц. выкананьня справы, кіруюцца табліцаю, якая паказвае ацэнку ў процантах ад усяе справы сумы выкананых стадый работ. (Гл. табліцу ў канцы інструкцыі).

*Увага.* Калі разрахунак з землякарыстальнікамі па спыненай справе робіцца па сутачнай расцэнцы, то кошт часьці работ, зробленай да спыненьня справы, вызначаецца па ліку фактычна страчаных земляўпарадчыкамі дзён работы, уключаючы і час на пераезды.

## IV. Парадак падліку работ і сродкаў.

§ 31. Падлік даходаў і выдаткаў робіцца акруговым зямельным аддзелам на агульных падставах у парадку інструкцыі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі СССР аб рахункаводзтве і справаздачнасьці для адміністрацыйных і ўрадавых устаноў, якія знаходзяцца на бюджэце, і абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 24-га мая 1927 г. № 1—б/11663.

§ 32. Выканаўцы земляўпарадчых спраў вядуць разрахунковы ліст па плацяжох. Пры гэтым арыгіналы квітоў аб унясеньні плацяжоў, перамененыя на расьпіскі ў парадку § 11, далучаюцца да земляўпарадчай справы разам з разрахунковым лістом. У гэтых-жа разрахунковых лістох паказваецца стан выкананьня справы да моманту скончэньня аперацыйных пэрыядаў а таксама і тады, калі справа

пераходзіць ад аднаго выканаўца да другога, з подпісам выканаўцаў і асоб, якія рэвізуюць справу. Разрахунковыя лісты ў выпадках патрэбы, паказваюцца прадстаўніком Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

§ 33. Пасьля зыходу справаздачных тэрмінаў плянаў работ: 1-га красавіка кожнага году для зімовых і 1-га кастрычніка кожнага году для летніх, акруговыя зямельныя аддзелы складаюць аперацыйную паўгадовую справаздачу выкананьня пляну паводле ўстаноўленай формы і не пазьней як праз тры тыдні пасьля зыходу справаздачнага пэрыаду падаюць такую ў акруговы фінансавы аддзел і ў Народны Камісарыят Земляробства.

§ 34. Да кожнай паўгадовай аперацыйнай справаздачы, якая падаецца акруговым зямельным аддзелам у парадку § 33, павінен абавязкова дадавацца складзены паводле ўстаноўленай формы поўны сьпіс земляўпарадчых спраў, што асталіся яшчэ няскончанымі выкананьнем да канца справаздачнага пэрыаду, паказаўшы процант няскончанасьці кожнай справы.

§ 35. Процант выкананьня земляўпарадчых спраў для складаньня аперацыйных зборак, справаздач і сьпісаў да справаздачы, павінен устанаўляцца паводле табліцы расцэнак, паказанай у § 30 гэтай інструкцыі.

## V. Ліквідацыя спэцыяльных сродкаў па земляўпарадкаваньні.

§ 36. З 1-га кастрычніка 1926 г. казначаецца ліквідацыя спэцыяльных сродкаў на падставе балянсу на 1-е кастрычніка 1926 г., у сувязі з чым акруговыя зямельныя аддзелы з 1-га кастрычніка 1926 г. робяць апярацыі па спэцыяльных сродках толькі ў парадку ліквідацыі задоўжанасьці і спагнаньня нядоімак за работы мінулых гадоў і інш. пазычак.

§ 37. Акруговыя зямельныя аддзелы і Адміністрацыйна-Арганізацыйны Аддзел Народнага Камісарыяту Земляробства складаюць справаздачу па спэцыяльных сродках земляўпарадкаваньня на 1-е кастрычніка 1926 г. па фактычным стане выкананьня спраў і паступленьні плацяжоў за выкананую работу, адбіваючы на актыве: а) гатоўку грашовых сродкаў па земляўпарадкаваньні; б) задоўжанасьць насельніцтва за 1925/26 г. і асобна за мінулыя гады; в) задоўжанасьць рабочых і служачых, а таксама і розных асоб за 1925-26 г. і асобна за мінулыя гады,—і на пасыве; а) пераборы плацяжоў з насельніцтва супроць проц. фактычнага выкананьня спраў на 1-е кастрычніка 1926 г. і асобна па ўсіх іншых справах мінулых гадоў; б) задоўжанасьць рабочым і служачым, а таксама розным асобам за 1925-26 г. і асобна за мінулыя гады.

*Увага.* Акруговыя зямельныя аддзелы павінны паклапаціцца, каб на дзень складаньня балянсу:

а) сумы, адпушчаныя Народным Камісарыятам Земляробства на льготнае земляўпарадкаваньне за ўсе гады былі, паводле ўстаноўленага парадку, сьпісаны па існаваўшай таксе, а нядоімка за насельніцтвам адпаведна зьменшана;

б) усе справы мінулых гадоў, якія патрабуюць таго ці іншага заканчэньня ў тым ліку і камэральнага, павінны знайсьці свой адбітак у балянсе на 1-е кастрычніка 1926 г. поўнасьцю ў частцы няскончанай работы па таксах, існаваўшых на працягу 1925-26 г. Справы, якія адбіліся ў балянсе па таксах раней існаваўшых, не пераацэньваюцца.

§ 38. Складзены балянс з усімі падрабязнымі дадаткамі, якія вызначаюць пэрсанальную задоўжанасьць у той ці іншы бок, падаецца акруговымі зямельнымі аддзеламі ў Народны Камісарыят Земляробства БССР. Апошнім пададзеныя балянсы зьбіраюцца ў рэспубліканскі балянс, разглядаюцца, зацьвярджаюцца і пасьля зацьверджаньня перадаюцца органам Народнага Камісарыяту Фінансаў да ведама.

§ 39. Ліквідацыя задоўжанасьці па спэцыяльных сродках, якая знайшла адбітак у балянсе на 1-е кастрычніка 1926 г., робіцца акруговымі зямельнымі аддзеламі і Народным Камісарыятам Земляробства БССР за рахунак сум, якія паступаюць ад дэбітораў земляўпарадкаваньня паводле § 5 гэтай інструкцыі.

§ 40. Не пазьней 1-га верасьня 1928 г. Народны Камісарыят Земляробства ў парадку § 3 гэтай інструкцыі падае Народнаму Камісарыяту Фінансаў ліквідацыйны балянс спэцыяльных сродкаў на 1-е красавіка 1928 г. з перадачаю цалкам актыву і пасыву ў распараджэньне Народнага Камісарыяту Фінансаў.

*Табліца да § 30 гэтай інструкцыі*

| №№ па чарзе | НАЗВА СТАДЫЙ | ВІДЫ РАБОТЫ: Дача разьвярстаньня (паміжпасельнае земляўпарадкаваньне) | Разьвярстан. пасел.: На хутары і адрубы | Разьвярстан. пасел.: На пасёлкі | Упарадкаваньне вёскі на месцы (пераход да шырокапалосіцы) | Нарэзка палос па гатовым пляне | Нарэзка палёў па гатовым пляне | Адводы зям.: Гарадом | Адводы зям.: Дзяржаўнай зямельнай маёмасьці | Адводы зям.: Калектыўным гаспадаркам з падзелам на палі | Зямельная рэгістр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Падрыхтоўка . . . | 3,5 | 5 | 4 | 6 | — | — | 12 | 7,5 | 7 | 12 |
| 2 | Абход акружнай мяжы, пракладка дыяганальных ходаў, вылічэн. каардынат і накладка на плян . . | 9,5 | 13 | 11 | 14 | — | — | 24 | 25 | 25 | 31 |
| 3 | Вылічэн. агульнай плошчы, здымка сітуацыі і нанясеньне яе на плян . . . . . . . | 23,5 | 28 | 25 | 29 | — | — | 53 | 55 | 50 | 58 |
| 4 | Зямельная расцэнка, вылічэньне вынікаў і складаньне патрэбных ведамасьцяй . . . . | 33 | 40 | 35 | 41 | — | — | — | — | — | — |

| №№ па чарзе | НАЗВА СТАДЫЙ | ВІДЫ РАБОТЫ: Дача разьвярстаньня (паміжпасельнае земляўпарадкаваньне.) | Разьвярстан. пасел. | | Упарадкаваньне вёскі на месцы (пераход да шырокапалосіцы) | Нарэзка палос па гатовым пляне | Нарэзка палёў па гатовым пляне | Адводы зямлі | | | Зямельная рэгістр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На хутары і адрубы | На пасёлкі | | | | Гарадом | Дзяржаўнай зямельнай маемасьці | Калектыўным гаспадаркам з падзелам на палі | |
| 5 | Складаньне земляўпарадчых праэктаў: паміжпасельнае разьвярстаньне і пераносеньне яго ў натуру | 40 | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Складаньне земляўпарадчых праэктаў: а) на разьвярст. паселішч на хутары і пасёлкі . . . . | 49 | 64 | 45 | — | — | — | — | — | — | — |
| | б) па адводу зямель гарадзк., дзяржаўнай зямельнай маемасьці і калякт. гаспад. | — | — | — | — | — | — | 71 | 67,5 | 57 | — |
| | в) па падзелу на палі і па адводу сядзіб. . . . . | 52 | — | 48 | 44 | — | 44 | — | — | 68 | — |
| 7 | Перанясеньне праэктаў у натуру: а) па разьвярстан. паселішч на хуторы і пасёлкі . . . . | 54 | 77 | 51 | — | — | — | — | — | — | — |
| | б) па адводу зямлі гарадом, дзярж. маемасьці і калект. гаспадарк. | — | — | — | — | — | — | 76 | 72,5 | 72 | — |
| | в) па падзелу на паля і адводу сядзіб . . . . | 55 | — | 52 | 45 | — | 58 | — | — | 74 | — |
| 8 | Складаньне праэктаў падзелу на шырокія паласы і перанясеньне яго ў натуру . . . . | 85 | — | 84 | 82 | 73 | — | — | — | — | — |
| 9 | Сканчэньне пляну і пісьмовага справавяцзеньня . . . . . | 90 | 84 | 90 | 89 | 86 | 72 | 87 | 85 | 86 | 85 |

| №№ пачарзе | НАЗВА СТАДЫЙ | ВІДЫ РАБОТЫ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дача разьвярстаньня (паміж пасельнае зем-ляўпарадкаваньне). | Разьвярстан пасел. | | Упарадкаваньне вёскі на месцы (пераход да шырокапалосіцы) | Нарэзка палос па гатовым пляне. | Нарэзка палёў па гатовым пляне. | Адводы землі | | | Зямельная рэгістр. |
| | | | На хутары і атрубы | На пасёлкі | | | | Гарадом | Дзяржаўнай зям. най маёмасьці. | Калякт.ыўн. гаспадаркам з падзелам на палі. | |
| 10 | Выраб копій пляну . . . . | 93 | 87 | 93 | 93 | 93 | 86 | 81 | 90 | 90 | 90 |
| 11 | Пасьведчаньне справы . . . | 96 | 90 | 96 | 96 | 100 | 100 | 96 | 95 | 95 | 95 |
| 12 | Выраб земляадводных дакумэнтаў . . . . | 100 | 100 | 100 | 100 | — | — | 100 | 100 | 100 | 100 |

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Час. вык. абав. Народнага Камісара
Фінансаў БССР **М. Абрамсон.**

15 сьнежня 1927 г.

---

## 4. Абежнік Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры Н. К. Земляробства БССР

АБ ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ ПРАЦЫ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ СЯРОД СЯЛЯНСТВА.

*Акруговым зямельным камісіям.*

Усякая, наогул, праца савецкіх установаў павінна адбывацца пад сталым кантролем мас. Асабліва недапусьціма бюрократычная пастаноўка справы ў зямельных камісіях. Апошнія ў сваёй працы павінны ня толькі вырашаць канкрэтныя справы, але разам з тым праводзіць правільную зямельную палітыку і знаёміць сялян з асноўнымі палажэньнямі зямельнага заканадаўства.

Між тым зробленае Асобаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю на мясцох абсьледаваньне працы зямельных камісій, а таксама разгляд шматлікіх вусных і пісьмовых сялянскіх скарг паказваюць, што ў працы зямельных камісій ня толькі няма патрэбнай сувязі з масамі, але наадварот адзначаецца поўная ад іх адарванасьць чыста бюрократычнага характару.

Для зьнішчэньня гэтага ненармальнага зьявішча прапануецца акруговым зямельным камісіям пэрыядычна ня менш 2—4 разоў у год асьвятляць сваю працу на шырокіх сходах, пленумах і канфэ-

рэнцыях сялян, а таксама ў друку, рабіць паказальныя працэсы і ў часе іх рабіць даклады для растлумачэньня зямельнага заканадаўства. Па сутнасьці гэтага абежніку прапануецца даць належныя паказаньні раённым зямельным камісіям.

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага
Кантролю па Зямельных Справах
пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі.**

29 кастрычніка 1927 г.
№ 20.360.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ ДАКУМЭНТАЎ, ЯКІЯ ВЫДАЮЦЦА АКРУГОВЫМІ ВЫКАНАЎЧЫМІ КАМІТЭТАМІ.

З тае прычыны, што з 1-га кастрычніка 1927 году ўведзен новы статут аб гэрбавым зборы, НК Унутраных Спраў і НК Фінансаў БССР прапануюць выконваць наступны парадак аплаты гэрбавым зборам дакумэнтаў:

1. Рэгістрацыя (запісы ў кнігах) усіх актаў грамадзянскага стану робіцца бясплатна.

2. Усе першастковыя і паўторныя пасьведчаньні аб нараджэньні і сьмерці аплачваюцца простым гэрбавым зборам па 15 кап. (§ 3 Таблю статуту аб гэрбавым зборы).

3. Усе першастковыя і паўторныя пасьведчаньні аб шлюбе, скасаваньні шлюбу, перамене прозьвішча і ўсынаўленьні аплачваюцца простым гэрбавым зборам па 1 руб. за пасьведчаньне (§ 2 Таблю).

4. Заявы аб нараджэньні і сьмерці не аплачваюцца гэрбавым зборам (§ 36 Пераліку выняткаў па гэрбавым зборы).

5. Пісьмовыя заявы аб шлюбе, скасаваньні шлюбу, перамене прозьвішча і ўсынаўленьні павінны аплачвацца простым гэрбавым зборам па 1 руб. за заяву (§ 1 Таблю).

6. Пісьмовыя заявы аб выдачы выпісаў (першастковых і паўторных) аб нараджэньні і сьмерці павінны аплачвацца гэрбавым зборам па 15 кап. за заяву (§ 3 Таблю).

7. Пісьмовыя заявы аб выдачы выпісаў (першастковых і паўторных) аб шлюбе, скасаваньні шлюбу, перамене прозьвішча і ўсынаўленьні павінны аплачвацца гэрбавым зборам па 1 руб. за заяву (§ 1 Таблю).

8. Заявы аб выпраўленьні запісаў, памылкі ў якіх зроблены органамі ЗАГС, не аплачваюцца гэрбавым зборам.

*Увага.* Усе вусныя заявы гэрбавым зборам не аплачваюцца.

9. Гэрбавага збору не плацяць:

а) урадавыя ўстановы, прадпрыемствы, якія ўтрымоўваюцца на агульна-дзяржаўныя або мясцовыя сродкі ў каштарысным парадку, навуковыя і культурна-асьветныя ўстановы і г. д., калі гэтыя ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі просяць аб выдачы выпісаў для сябе, а не для перадачы прыватным асобам;

б) беспрацоўныя, якія атрымоўваюць дапамогу з сум сацыяльнага страхаваньня або маюць права на атрыманьне яго, а таксама тыя, якія атрымоўваюць дапамогу ад прафэсіянальных саюзаў;

в) асобы, якія атрымоўваюць дапамогу ў парадку сацыяльнага забясьпечаньня;

г) вучні, якія атрымоўваюць дзяржаўныя стыпэндыі.

10. Выпісы з кніг актаў грамадзянскага стану, якія выдаюцца: а) для падачы ў органы міліцыі, каб атрымаць пашпарт; б) для падачы пры паступленьні ў працоўныя школы і в) для падачы да спраў аб праходжаньні вайсковай службы—гэрбовым зборам не аплачваюцца, як выпісы, так і заявы.

*Увага.* На памянёных выпісах трэба абавязкова адзначаць для чаго яны выдаюцца.

11. Выпісы аб сьмерці, на якіх будзе адзнака, што яны выдаюцца толькі на права пахаваньня, гэрбавым зборам не аплачваюцца.

12. Пасьведчаньні, а таксама і заявы на права набыцьця, захаваньня і нашэньня зброі не аплачваюцца гэрбавым зборам, апроч пасьведчаньняў на паляўнічую зброю, што выдаюцца асобам, якія не зьяўляюцца членамі паляўнічых капяратываў (§ 55 Пераліку выняткаў па гэрбавым зборы). У апошніх выпадках пасьведчаньні аплачваюцца па 1 руб. за пасьведчаньне і па 1 руб. за заяву (§ § 1 і 2 Таблю).

*Увага.* У сувязі з гэтым касуюцца § § 41 і 42 інструкцыі НК Унутраных Спраў № 263, 1926 г., „Аб парадку набыцця, захаваньня і рэгістрацыі паляўнічай зброі“.

13. Пісьмовыя заявы аб зацьверджаньні праэктаў статутаў розных таварыстваў, якія падаюцца ў адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў, павінны аплачвацца гэрбавым зборам па 1 руб. за заяву (§ 1 Таблю).

14. Адказы (хаця-б і ў форме надпісу на статуце) аб зацьверджаньні статутаў аплачваюцца па 1 руб. за адказ (§ 2 Таблю).

*Увага 1.* Калі пісьмовая заява аб зацьверджаньні праэктаў статутаў не падаецца, а гэтыя статуты замяняюць заяву, то адзін экзэмпляр статуту (які астаецца ва ўстанове) аплачваецца, як як заява, 1 руб.

*Увага 2.* Калі праэкты статутаў прыкладаюцца да пісьмовай заявы, то гэтыя праэкты, як дадаткі, не аплачваюцца, а аплачваецца заява 1 руб. (адказы аплачваюцца паводле п. 14 абежніку).

15. Парадак наклейваньня і касаваньня гэрбавых марак на дакумэнтах у органах ЗАГС'у наступны:

Гэрбавыя маркі павінны брацца ў дзень падачы заявы ў ЗАГС і наклейваюцца на тых паперах, якія астаюцца ў ЗАГС'е: на пісьмовых заявах, а калі выпісы грамадзянскага стану выдаюцца на падставе вусных заяў, то маркі наклейваюцца на копіях выпісаў. Касаваньне гэрбавых марак робіцца службовымі асобамі ЗАГС'у, якія павінны перакрэсьліць гэтыя маркі і паставіць дату скасаваньня. На выпісах, якія выдаюцца ЗАГС'амі, адзначаецца ў якім разьмеры ўзяты гэрбавы

збор, а калі, здакумэнтаў або асоб, якім выдаюцца дакумэнты, гэрбавы збор не бярэцца, то органы ЗАГС'у павінны адзначаць на паперах, якія астаюцца ва ўстанове, і ў дакумэнтах, якія выдаюцца на рукі, прычыны, чаму гэрбавы збор не бярэцца.

Гэты абежнік тэрмінова паведаміць усім падпарадкаваным Вам органам.

Усе абежнікі і распараджэньні, якія былі выдадзены да гэтага часу, касуюцца.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР **Я. Кроль.**

За Народнага Камісара
Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

30-га лістапада 1927 г.
№ 210.

---

З а ц ь в я р д ж а ю
Нар. Кам .Фін. БССР **І. Васілевіч.**
19 верасьня 1927 г.

З г о д з е н
Народны Камісар Унутраных
СпраўБССР **А .Сташэўскі.**
4 кастрычніка 1927 г.

## 6. Інструкцыя Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР

АБ ЗБОРЫ ПЛАЦЯЖОЎ ПА АБАВЯЗКОВЫМ АКЛАДНЫМ СТРАХАВАНЬНІ Ў СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ БССР.

Раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам.

*Выдадзена на падставе § 2 Палажэньня аб удзеле раённых выканаўчых камітэтаў у зборы акладу страхавых плацяжоў па сельскім акладным страхаваньні ў БССР, зацьверджанага Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР 7 верасьня 1927 г.*

### І. Парадак прыманьня плацяжоў і выдачы квітоў.

§ 1. Плацяжы па абавязковым акладным страхаваньні прымаюцца ад страхавальнікаў на падставе паведамленьняў і іменных сьпісаў, якія складаюцца агэнцтвамі дзяржаўнага страхаваньня.

§ 2. Пры кожным атрыманьні акладных страхавых плацяжоў, плацельшчыку выдаецца на рукі страхавы квіт з квітовай кніжкі формы дзяржаўнага страхаваньня з подпісам і з пячаткаю раённага выканаўчага камітэту або сельскага савету.

Атрыманьне грошай бяз квітоў, выдача іншых (не страхавых) квітоў або выдача прыватных расьпісак забараняецца (п. 3 Палажэньня аб удзеле раённых выканаўчых камітэтаў у зборы страхавых плацяжоў).

§ 3. Квіты выпісваюцца атрамэнтам або атрамэнтавым (хімічным) карандашом.

*Увага.* Папсаваныя квіты перакрэсьляюцца і захоўваюцца пры іх карэнчыках.

§ 4. Калі за страхавальнікам разам з акладам лічыцца нядоімка акладных страхавых плацяжоў і страхавальнік плаціць ня ўсю суму,

то з атрыманых грошай перш-за-ўсё папаўняецца нядоімка мінулых гадоў з пеняю, лішак-жа, які астанецца пасьля выплаты нядоімкі, залічаецца ў рахунак акладу.

*Увага.* Пры здачы плацельшчыкамі часткі нядоімкі мінулых гадоў, пеня вылічаецца прапарцыянальна здадзенай суме нядоімкі. Рэшта нязданзенай пені адзначаецца ў квітку і карэнчыку, як недабор, асобна ад нядоімкі.

§ 5. У квітох і карэнчыках атрыманыя страхавыя плацяжы падзяляюцца: на нядоімку мінулых гадоў, аклад, пеню і на сумы, якія паступілі за прымусовае спагнаньне.

## II. Пардак здачы грошай сельскімі саветамі ў касу раённага выканаўчага камітэту.

§ 6. Прынятыя сумы страхавых плацяжоў сельскія саветы здаюць у касу раённага выканаўчага камітэту ня менш аднаго разу ў тыдзень (п. 6 Пастановы).

*Увага.* Перад здачаю грошай у касу раённага выканаўчага камітэту, сельскія саветы адзначаюць у іменных сьпісах аб выплачаных страхавальнікамі плацяжох, паказваючы час выплаты, нумар квіту і выплачаную суму.

§ 7. Пры атрыманьні раённым выканаўчым камітэтам ад сельскіх саветаў страхавых плацяжоў правяраецца сваячаснасьць здачы сельскімі саветамі страхавых сум і лік аркушаў у кожнай квітовай кніжцы, а таксама падлічаюцца па карэнчыках квітоў прынятыя сельскімі саветамі сумы, якія пры гэтым падзяляюцца на нядоімку, аклад, пеню і за прымусовае спагнаньне.

*Увага.* Калі сельскія саветы не сваячасна знаюць сабраныя сумы (§ 6), то раённыя выканаўчыя камітэты павінны высьвятліць прычыны няздачы грошай для ўжыцьця адпаведных захадаў.

§ 8. Аб атрыманьні ад сельскіх саветаў страхавых плацяжоў выдаюцца зборныя квіты устаноўленай Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня формы, у якіх паказваецца: №№ квітоў, па якім здадзены грошы (ад № да №), і сума плацяжоў, падзеленая на нядоімку, аклад, пеню і за прымусовае спагнаньне.

§ 9. На адвароце апошняга карэнчыку выданага сельскім саветам квіту робіцца адзнака такога зьместу: „З нумару такога-та да нумару такога-та сабрана столькі-та нядоімкі, акладу, пені і за прымусовое спагнаньне; аб прыняцьці гэтых грошай выдан зборны квіт № (такі-та); не падлічаліся сапсаваныя квіты №№ (такія-та). Дзень, месяц і год. Подпіс“.

§ 10. Прыманьне страхавых плацяжоў ад страхавальнікаў касамі раённых выканаўчых камітэтаў робіцца такім-жа парадкам, як гэта робіцца сельскімі саветамі.

Адзнака ў іменных сьпісах аб прынятых сумах ад страхавальнікаў беспасрэдна касамі раённых выканаўчых камітэтаў робіцца паводле зробленых адзнак агэнцтвамі ў асабовых рахунках або з карэнчыкаў квітоў.

*Увага.* На прынятыя раённымі выканаўчымі камітэтамі страхавыя плацяжы беспасрэдна ад страхавальнікаў штодзень на ўсю атрыманую такім парадкам суму складаецца адзін зборны квіт так, як на прынятыя сумы ад сельскіх саветаў (§§ 7—9 Інструкцыі).

§ 11. Сабраныя страхавыя плацяжы раённыя выканаўчыя камітэты здаюць адзін раз у тыдзень і незалежна ад гэтага ў апошні дзень кожнага месяца зборшчыку (упаўнаважанаму) Дзяржаўнага Банку (п. 10 Пастановы)

## III. Здача карэнчыкаў квітовых кніжак.

§ 12. Сельскія саветы карэнчыкі поўнасьцю скарыстаных квітовых кніжак здаюць у раённыя выканаўчыя камітэты пры кожнай здачы сабраных сум страхавых плацяжоў.

§ 13. Раённыя выканаўчыя камітэты зварочваюць скарыстаныя карэнчыкі квітовых кніжак страхавым агэнцтвам адзін раз у канцы кожнага месяца (п. 5 Пастановы).

## IV. Справаздачнасьць.

§ 14. Пасьля здачы сабраных сум зборшчыку (упаўнаважанаму) Дзяржаўнага Банку, раённыя выканаўчыя камітэты здаюць страхавым агэнтам для правядзеньня па сваёй справаздачнасьці талёны зборных квітоў, па якіх прыняты касамі раённых выканаўчых камітэтаў страхавыя плацяжы, і выдатковыя дакумэнты (копія або дублікат квіту зборшчыка Дзяржаўнага Банку і квіт раённага выканаўчага камітэту аб атрыманьні платы за збор акладу (п. 12 Пастановы).

§ 15. Два разы ў месяц (1 і 16 кожнага месяца) раённыя выканаўчыя камітэты складаюць двухтыднёвую зборку аб паступіўшых плацяжох за мінулы паўмесяц па сельскіх саветах раёну і рассылаюць іх сельскім саветам (п. 13 Пастановы).

§ 16. Раённыя выканаўчыя камітэты складаюць месячныя ведамасьці штодзённых зваротаў сум страхавых плацяжоў, што паступаюць у касу раённага выканаўчага камітэту, якая (ведамасьць) у канцы месяца здаецца страхавому агэнту для адсылкі ў Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР.

§ 17. Калі будуць выяўлены растраты сабраных сум страхавых плацяжоў, то раённыя выканаўчыя камітэты аб кожным выпадку растраты складаюць у 2-х экзэмплярах акты, пры гэтым 1-шы экзэмпляр перадаецца ў раённую міліцыю для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці, а другі—у страхавое агэнцтва.

Старшыня Кіраўніцтва Дзяржаўнага
Страхаваньня БССР **З. Чарнушэвіч.**

28 верасьня 1927 г.
г. Менск.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ НАДПІСАЎ НА КАШТОЎНЫХ ПАПЕРАХ.

*Усім акруговым судом і натарыяльным канторам.*

Народны Камісарыят Юстыцыі БССР абвяшчае ніжэй копію абежніку Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 27 кастрычніка г. г. № 48 па пытаньні аб аплаце гэрбавым зборам надпісаў на каштоўных паперах, для належнага выкананьня.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

26 лістапада 1927 г.
№ 203.

ДАДАТАК

## Абежнік Кіраўніцтва Дзяржаўнымі Падаткамі Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР

### АБ АПЛАЦЕ ГЭРБАВЫМ ЗБОРАМ НАДПІСАЎ НА КАШТОЎНЫХ ПАПЕРАХ.

*Народным Камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік.*

Як відаць з перапіскі, якая ёсьць у Кіраўніцтве Дзяржаўнымі Падаткамі, пры ўжываньні § 13 Таблю да Статуту аб гэрбавым зборы за 14/IX 1927 г. узьнiклі пытаньні аб тым: 1) што ўласна трэба разумець пад каштоўнымі паперамі, памянёнымі ў § 13 Таблю, ці падыходзяць, напрыклад, сюды вэксалі, варанты, конасамэнты і інш. і 2) чые іменна надпісы на каштоўных паперах павінны аплачвацца гэрбавым зборам.

Для аднастайнага вырашэньня паказаных пытаньняў Народны Камісарыят Фінансаў СССР лічыць патрэбным паведаміць наступнае:

1. Паводле § 13 Таблю да Статуту аб гэрбавым зборы за 14/IX 1927 г., гэрбавым зборам павінны аплачвацца толькі перадатачныя надпісы на дагаворах, паказаных у §§ 15 і 16 Таблю; надпісы на іншых дагаворах Таблем не прадугледжаны. Гэтая адкалічнасьць прымушае і § 13 Таблю талкаваць строга абмяжована, разумеючы пад каштоўнымі паперамі—процантавыя паперы, а іменна: акцыі, паі і аблігацыі.

Такое талкаваньне пацьвярджаецца і параўненьнем § 13 новага Таблю з замененым ім § 31 Таблю да Статуту за 17/VIII 1923 г.; паказаны § 31 гаварыў аб перадатачных надпісах іменна на процантавых паперах: акцыях, паёх і аблігацыях; надпісы-ж на іншых дакумэнтах аплачваліся асобна.

2. Паводле арт. 344 Грамадзянскага Кодэксу РСФСР *) перадатачныя надпісы на акцыях або часовых пасьведчаньнях могуць рабіцца і асобаю, якая перадае іх іншай асобе, і Кіраўніцтвам акцыйнага таварыства (паявога таварыства); калі акцыя перадаецца надпісам уласьніка, то гэты надпіс і павінен аплачвацца гэрбавым зборам паводле § 13 Таблю; аднака-ж Кіраўніцтва, зробленая на падставе гэтага надпісу, не аплачваецца. Калі-ж надпіс аб пераводзе акцыі на іншую асобу робіцца Кіраўніцтвам акцыйнага таварыства не перадатачным надпісам уласьніка, а на іншай падставе, то аб'ектам аплаты зьяўляецца надпіс акцыйнага таварыства.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў СССР **Фрумкін.**

Пам. Начальніка Кіраўніцтва Дзяржаўнымі Падаткамі НКФ СССР **Ліфшыц.**

27 кастрычніка 1927 г.
№ 48.

---

*) Артыкулу 344 Гр. Код. РСФСР адпавядае арт. 381 Гр. Кодэксу БССР.

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ НЕКАТОРЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПАГЛЫБЛЕНЬНІ І ПАШЫРЭНЬНІ ІНСТРУКТАВАНЬНЯ НАРОДНЫХ СУДЗЬДЗЯЎ І ПА АБ'ЯДНАНЬНІ КАСАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ АКРУГОВЫХ СУДОЎ.

*Усім акруговым судом.*

Прапанаваныя раней Народным Камісарыятам Юстыцыі некаторыя мерапрыемствы ў галіне скарыстаньня касацыйнай практыкі акруговых судоў для інструктаваньня народных судзьдзяў і аб'яднаньня касацыйнай практыкі, у паасобку, аб пэрыадычным складаньні дырэктыўных лістоў на падставе распрацоўкі касацыйнага матар'ялу і аб вынясеньні асобных пастаноў па заўважаных пры разглядзе касацыйных спраў паасобных парушэньнях, якія дапушчаюцца народнымі судамі, павінны былі даць і, напэўна, далі здавальняючыя вынікі ў сэнсе палепшаньня працы народных судоў.

Для гэтага, паглыбленьне і пашырэньне адзначаных спосабаў інструктаваньня, асабліва вынясеньне асобных пастаноў па заўважаных парушэньнях, павінны астацца і на далей аднэй з найважнейшых задач акруговых судоў.

Аднак, паколькі дырэктыўныя лісты і асобныя пастановы зьяўляюцца пісьмовымі спосабамі інструктаваньня, ад іх немагчыма чакаць усіх тых вынікаў, якія можа даць жывое інструктаваньне, як найлепшая форма апошняга, дзеля чаго яно павінна быць скарыстана акруговымі судамі ў найбольш поўнай меры.

Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць, што значныя вынікі ў гэтым кірунку могуць быць дасягнуты праз арганізацыю спэцыяльных нарад членаў касацыйных калегій акруговых судоў з народнымі судзьдзямі па пытаньнях касацыйнай практыкі, ў форме так званых „пытаньняў і адказаў“, а таксама праз камандыраваньні паасобных членаў акруговых судоў на раённыя нарады працаўнікоў юстыцыі для асьвятленьня на іх касацыйнай практыкі акруговага суду.

З прычыны паказанага вышэй Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Пашырыць і паглыбіць практыку касацыйных калегій акруговых судоў па вынясеньні асобных пастаноў па касацыйных справах з тым, каб ніводнае парушэньне, дапушчанае народным судом, не асталося без растлумачэньня, для чаго пашырыць і паглыбіць рэвізійны прагляд касацыйных спраў.

2. Арганізоўваць, пасьля кожнага акруговага зьезду працаўнікоў юстыцыі, спэцыяльныя нарады членаў акруговых судоў з народнымі судзьдзямі па пытаньнях касацыйнай практыкі ў форме так званых „пытаньняў і адказаў“.

3. Камандыраваць, па магчымасьці, на кожную раённую нараду працаўнікоў юстыцыі паасобных членаў акруговага суду для асьвятленьня на ёй касацыйнай практыкі акруговага суду і тых парушэньняў, якія найбольш часта дапушчаюцца народнымі судамі.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Энерал.**

Ст. Інспэктар Народнага Камісарыяту
Юстыцыі БССР **Я. Барышаў.**

10 лістапада 1927 г.
№ 99.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ Ў ГОР. МЕНСКУ СТАНДАРТАЎ НА ПЕЧАНЫ ЖЫТНІ І ПШАНІЧНЫ ХЛЕБ.

На падставе п. п. „в“ і „м“ арт. 4 „Часовага палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР“ і загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 29/IX г. г. № 1475 Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

I. Устанавіць у г. Менску для ўсіх дзяржаўных, капэрацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемстваў наступныя стандарты, на нарміраваныя гатункі пшанічнага і жытняга печанага хлеба:

### А. Пшанічны хлеб.

1. Першы гатунак—штучны (франц. булкі, батоны, пляцёнкі, кайзеркі, рагалікі і здоба) выпякаецца з 75 проц. мукі 1-га гатунку і 25 проц. мукі 2-га гатунку з дабаўленьнем ня менш 2,5 проц цукру. Зольнасьць мешаніны павінна зкладаць ня больш 0,61 проц.

2. Другі гатунак—вагавы (калачы і баранкі) выпякаецца з 40% мукі 1-га гатунку і 60 проц. мукі 2-га гатунку. Зольнасьць мешаніны ня больш 0,7 проц.

*Увага.* Здобныя не нармаваныя гатункі пшанічнага хлеба павінны выпякацца з мукі нягоршай тае мукі, з якой пячэцца 1-шы гатунак хлеба, з дабаўленьнем на кожныя 100 кгр. ня менш 30 яек, 8 проц. цукру і 5 проц. тлушчу.

3. Печаны пшанічны хлеб, які выпускаецца на рынак, павінен выпякацца ў выглядзе:
а) вагавага (калачы);
б) штучнага.

Вага калача (вагавага) павінна быць ня большаю 3-х кгр. Штучны хлеб павінен важыць:
а) францускія булкі 200 і 300 гр.;
б) батоны 300 і 500 гр.;
в) пляцёнкі 300, 500 і 1000 гр.;
г) баранкі па 45 гр.;
д) кайзеркі і рагалікі па 50 гр.

*Увага.* Штучны хлеб павінен мець паказаную вагу праз 4 гадзіны пасьля выняцьця з печы. Пасьля гэтага тэрміну дапускаюцца адхіленьні ў разьмеры ня больш 2,5 проц. ад вагі 10 штук.

5. Для паказаных гатункаў пшанічнага хлеба ўстанавіць наступную маркіроўку:
а) францускія булкі, батоны, пляцёнкі (штучныя), кайзеркі і рагалікі—усе 1-га гатунку;
б) здоба (з дабаўленьнем 5 проц. цукру)—1-га гатунку;
в) вагавы (калачы, пляцёнкі)—2-га гатунку;
г) баранкі—2-га гатунку.

### Б. Жытні хлеб.

1. Вышэйшыя гатункі вагавага і штучнага хлеба выпякаюцца з жытняй пытляванай мукі 1-га гатунку (выхад 43 проц.). Зольнасьць

ня больш 0,8 проц.

2. Палепшаны гатунак—вагавы выпякаецца з жытняй мукі адсяванай (выхад 75 проц.). Зольнасьць ня больш 1,4 проц.

3. Просты вагавы выпякаецца з мукі жытняй прастой (выхад 97,5 проц) або абойнай (выхад 95 проц.), дапускаючы прымешку пшанічнай мукі 3-га гатунку ў разьмеры да 15 проц.

4. Заварны вагавы выпякаецца з мешаніны мукі, якая ўстаноўлена для простага (п. 3) з д абаўленьнем ня менш 5 проц. соладу. Печаны жытні хлеб які выпускаецца на рынак, павінен выпякацца ў выглядзе:

а) вагавога (каравай);

б) штучнага.

5. Вагавы хлеб можа быць подавым і формавым. Вага караваю (вагавага) павінна быць ня больш 6 кгр. для простага і заварнога, 4 кгр. для палепшачага (адсяванага) і 3-х кгр. для вышэйшага гатунку (пытляванага). Штучны хлеб (вышэйшы гатунак пытляванага) павінен выпякацца вагаю да 1 кгр.

*Увага 1.* Штучны хлеб павінен мець паказаную вагу праз 4 гадзіны пасьля выняцьця яго з печы. Пасьля гэтага тэрміну дапускаецца адхіленьне ў разьмеры ня больш 2,5 проц. ад вагі 10 шт. гэтага хлеба.

*Увага 2.* Да 1-га студзеня 1928 г. дазваляецца пячэньне вагавага хлеба палепшанага гатунку (адсяванага) да 5 кгр.

## В. Тэхнічныя умовы.

Пшанічны і жытні хлеб павінны адпавядаць наступным тэхнічным умовам.

Паверхня хлеба павінна быць роўнаю, гладкаю, бяз трэшчын, надрываў, прыгарэлых месц або пабочных уключэньняў. Верхняя скарынка павінна мець раўнамерны колер, для пшанічнага ад сьветла-саломеннага да сьветла-каштанавага, у залежнасьці ад гатунку хлеба, для жытняга простага і заварнога - цынамонавы-буры і для вышэйшых гатункаў--сьветла-цынамонавы з некаторым бляскам.

Скарынка хлеба не павінна аддзяляцца ад мякіша, а павінна шчыльна з ім злучацца, паступова пераходзячы ў яго. Таўшчыня скарынкі павінна быць умеркаванаю, звычайна не правышаючы 2—3 мм. у пшанічным і 1/2 сант. у жытнім хлебе. За скарынку трэба лічыць частку, якая адрозьніваецца ад мякіша сваім больш цёмным колерам. Мякіш павінен зьяўляцца добрапрапечанаю, рыхлаю, аднароднаю, не маркаю, роўнаю, порыстаю масаю, без жадных камочкаў і элястычную настолькі, каб ямкі, якія робяцца ад лёгкага націсканьня пальцам, паступова самі выраўньваліся. Хлеб не павінен быць вельмі вільготным на выгляд і на вобмацак, а таксама ня сухім, крашыстым і чорствым. У хлебе не павінна быць ніякіх адзнак плесьні, закалу, г. з. вадзяністых частак мякіша, не зьмяшчаючых пор, таксама не павінна быць камочкаў не прамешанай мукі, або камочкаў ня порыстых і больш цёмнага колеру.

Смак хлеба павінен быць нармальным, прыёмным, адпавядаючым данаму гатунку хлеба, бяз горычы і наогул пабочнага прысмаку.

Вільлготнасьць хлеба не павінна перавышаць: для пшанічнага і жытняга вышэйшага гатунку—43 проц., а

для жытняга простага і заварнога—49 проц.

Парыстасьць хлеба павінна быць ня меншаю у пшанічным—70 проц., у жытнім вышэйшага гатунку—40 проц. і у жытнім простым і заварным—36 проц.

Кісласьць хлеба не павінна перавышаць:

а) для пшанічнага—5⁰;

б) для жытняга вышэйшага гатунку—6⁰;

в) „ „ заварнога—9⁰;

г) „ „ простага—13⁰.

*Увага 1.* Мука і іншыя прадукты, якія ідуць на хлебапячэньне, павінны быць добрай якасьці і ня мець ніякіх шкодных і іншых прымешак.

*Увага 2.* Разрыхленьне цеста павінна рабіцца: пшанічнага хлеба пры дапамозе дрожджаў, а жытняга—дрожджаў або заквасі.

*Увага 3.* Хлеб павінен прадавацца толькі прагстыглым.

Недабраякасны хлеб не павінен выпушчацца на рынак:

а) калі ў ім ёсьць медзь, цынк, волава або іншыя мэталі, шкодныя для арганізму, а таксама квасцы і іншыя пабочныя прымесі або прымесі, якія маскуюць недабраякаснасьць мукі;

б) калі ў ім ёсьць ражкі (спарыньня) або куколь вышэй дапушчаных норм або іншыя шкодныя для арганізму не ядальныя прымесі: жыцік дурманавы, галаўня і інш.;

в) заплясьнелы і з бактэрыямі хлеб і г. д.

II. Паказаныя вышэй стандарты печанага жытняга і пшанічнага хлеба ўвесьці ва ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных пякарных прадпрыемствах г. Менску з 1-га лістапада 1927 г.

III. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. арт. 106 і 141 Крым. Кодэксу, а прыватныя паводле арт. 141 Кр. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

31 кастрычніка 1927 г.
№ 57.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### АБ УЖЫВАНЬНІ ТОЛЬКІ МЭТРЫЧНЫХ МЕРАК У ГАНДЛІ ПРЫ РАСЦЭНКАХ І ПРОДАЖЫ ТАВАРАЎ.

У практыцы гандлёвых прадпрыемстваў, як звычайная зьява, пры пераводзе вялікіх мэтрычных адзінак на меншыя наглядаецца зраўнаньне на старыя немэтрычныя вымерныя адзінкі, напрыклад, фунт прыраўньваецца да 400 гр., $2^1/_2$ фунты да 1 кгр. і г. д.

Для паступовага правядзеньня мэтрычнай рэформы ў галіне гандлю і канчатковай забароны ўжываць старыя меркі, а таксама для зьнішчэньня пераводаў мэтрычных адзінак на немэтрычныя, дапасавальныя да старых вымернікаў, народныя камісарыяты Гандлю і Унутраных Спраў БССР, на падставе пастановы Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР за 9/II-1927 г. № 20 „Аб устанаўленьні расцэначных адзінак вагі“ (Бюл. СНК

БССР 1927 г., № 6) і пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 18/VII 1927 г. „Аб ужываньні толькі мэтрычных мерак у гандлі пры расцэнках і продажы тавараў“ (апублікована ў газэце „Экономическая Жизнь“ № 165 за 23/VII—1927 г., пастанаўляюць:

1. Абавязаць дзяржаўныя, каперацыйныя і прыватныя гандлёвыя прадпрыемствы пры продажы тавараў, якія расцэньваліся на фунт, ў зачыненых памяшканьнях і палатках, з латкоў, на рынках і г. д. ужываць 1 кгр., 500 і 100 гр; на тавары, якія прадаюцца больш дробнымі часткамі, ужываць 100 гр., 10 гр. і 1 гр.; на тыя катэгорыі тавараў, якія прадаюцца ў адзінках большых, чымся кілёграм, ужываецца—тона, цэнтнер і іх дзесяткавыя долі.

2. Абавязаць гандлёвыя прадпрыемствы вывешваць прэйскуранты цэн на тавары ў расцэнках, паводле асноўных мэтрычных адзінак, паказаных у п. 1.

3. Абавязаць дзяржаўныя і каперацыйныя гандлёвыя прадпрыемствы і іх служачых прылаўкаў, а таксама прыватныя прадпрыемствы абвяшчаць купцу вагу тавараў, якія адпускаюцца ў мэтрычных адзінках, а таксама і цэны іх, грунтуючыся на разрахунку асноўных расцэначных мэтрычных адзінак. Напрыклад, калі купец просіць 400 гр. масла, якое каштуе 96 кап., то прадавец павінен яму растлумачыць, што цана вызначана за кілёграм 2 р. 40 к., або 500 гр.—1 р. 20 к., або 100 гр.—24 кап.

4. Расцэнкі за долі кілёграма рабіць паводле дакладнага арытмэтычнага разьліку, з акругленьнем лічбаў толькі пры канчатковым разьліку.

5. За невыкананьне паказанага вышэй вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. 106 Крым. Кодэксу, а прыватныя паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

6. Нагляд за няўхільным ажыцьцяўленьнем гэтай пастановы ўскладаецца на органы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР і міліцыю на мясцох.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

31 кастрычніка 1927 г.
№ 58.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ГРАНІЧНЫХ НАБАВАК ДЛЯ ПРЫВАТНАГА ГАНДЛЮ НА РЫБНЫЯ ТАВАРЫ.

На падставе п. п. „в“, „м“ і „о“ арт. 4„ Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР“ і пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР № 256 за 17/Х—1927 г. „Об установлении предельных цен и накидок на дальневосточную сельдь“ і за 1/IХ—1927 г. (прат. № 205) „О мерах упорядочения рыбного рынка“ Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гранічныя набаўкі на астраханскія, касьпійскія і далёкаўсходнія селядцы для прыватнага гандлю:

а) пры павагонным продажы з калёс ф-ко станцыя назначэньня —6 проц. на сабекошт;

б) пры продажы агулам і дробным агулам—9 проц. на себекошт.

*Увага.* Паўагулам лічыць продаж селядцоў больш бочкі.

в) пры гандлі нарозна—19 проц. на сабекошт.

*Увага 1.* Пад сабекоштам разумеецца адпускная цана паводле рахунку з прыбаўленьнем выдаткаў па ўгодзе, воднага і чыгуначага фрахту, кошту гужавой перавозкі да месца продажу, выцек па нормах Народнага Камісарыяту Шляхоў і страхаваньня ад зьніжэньня якасьці тавараў у дарозе ў разьмеры ня больш 2 проц.

*Увага 2.* Пры продажах нарозна да сабекошту да пералічаных вышэй выдаткаў прыбаўляецца кошт за вагу тары.

2. Кошт за вагу тары на селядцы для прыватнага гандлю нарозна ўстанаўляецца ў разьмеры 19 проц. ад вагі брута.

3. Гэтая пастанова набывае сілу ад дня апублікаваньня.

4. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Ст. Інспэктар па Прамысловых Таварах
Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **А. Найдус.**

---

4 лістапада 1927 г.
№ 59.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ ПАРАДКУ РЭГІСТРАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ І КАПЕРАЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ І ПРЫВАТНЫХ АСОБ, ЯКІЯ ПРЫЯЗДЖАЮЦЬ У БССР ДЛЯ ЗАГАТОЎКІ ЖЫВЁЛЫ І МЯСА НА ВЫВАЗ ЗА МЕЖЫ БССР, А ТАКСАМА МЯСЦОВЫХ ПРЫВАТНЫХ АСОБ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА КУПЛЯЙ ЖЫВЁЛЫ І МЯСА.

Для рэгуляваньня рынку загатоўкі жывёлы і мяса, на падставе п. п. „в“ і „м“ арт. 4 і п. „г“ арт. 7. „Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР“ (З. З. БССР 1924 г., № 25—26, арт. 227), Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія прыезджаюць у БССР для загатоўкі жывёлы на вываз за межы БССР, павінны рэгістравацца ў Народным Камісарыяце Гандлю БССР або ў яго мясцовых органах (у акруговых інспэктароў гандлю).

2. Усесаюзныя і іншых саюзных рэспублік дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі да самастойных загатовак жывёлы на абшарах БССР не дапушчаюцца; патрэбную ім колькасьць жывёлы і мяса могуць загатаўляць толькі аснаўныя мясазагатоўшчыкі БССР (Белмясгандаль і Беларускі Сельска-Гаспадарчы Саюз), заключыўшы з апошнімі адпаведныя дагаворы.

3. Усе прыватныя асобы (мясязагатоўшчыкі), мясцовыя і прыехаўшыя з іншых месц у БССР, якія займаюцца загатоўкаю жывёлы і мяса на вываз у гарады БССР і за межы БССР, павінны рэгістравацца ў акруговых інспэктароў гандлю, маючы пры сабе патэнты адпаведных разрадаў.

Прыватныя-ж асобы, якія займаюцца купляю жывёлы для свайго дробнага гандлю ў мястэчках і ў гарадох раённага значэньня, павінны рэгістравацца ў раённых выканаўчых камітэтах.

*Увага.* Акруговыя інспэктары гандлю пры рэгістрацыі прыватных мясазагатоўшчыкаў паказваюць апошнім раёны загатовак і вызначаюць парадак вядзеньня імі загатовак у адпаведнасьці з асобнаю інструкцыяю, якая будзе выдана Народным Камісарыятам Гандлю БССР. Раённыя выканаўчыя камітэты,

рэгіструючы прыватных мясазагатоўшчыкаў, таксама кіруюцца гэтаю інструкцыяю.

4. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. арт. 106 і 141, а прыватныя асобы паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

5. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту апублікаваньня.

6. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговых інспэктароў гандлю і на раённыя выканаўчыя камітэты.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Гандлю БССР **З. Мазо.**

Узгоднена з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР:
Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

18 лістапада 1927 г.
№ 60.

---

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ НК ГАНДЛЮ БССР ЗА 18 ЛІСТАПАДА 1927 г. № 60 „АБ ПАРАДКУ РЭГІСТРАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ І КАПЕРАЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ І ПРЫВАТНЫХ АСОБ, ЯКІЯ ПРЫЯЗДЖАЮЦЬ У БССР ДЛЯ ЗАГАТОЎКІ ЖЫВЁЛЫ І МЯСА НА ВЫВАЗ ЗА МЕЖЫ БССР, А ТАКСАМА І МЯСЦОВЫХ ПРЫВАТНЫХ АСОБ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА КУПЛЯЙ ЖЫВЁЛЫ І МЯСА“.

У разьвіцьцё свае пастановы за 18 лістапада 1927 № 60 Народны Камісарыят Гандлю БССР прапануе акруговым інспэктаром гандлю і раённым выканаўчым камітэтам пры рэгістрацыі дзяржаўных, каперацыйных і прыватных мясазагатоўшчыкаў кіравацца наступным:

1. Акруговыя інспэктары гандлю, рэгіструючы дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія прыязджаюць у БССР для загатоўкі жывёлы і сьвіней на вываз за межы БССР, паведамляюць апошнім, што яны да самастойных загатовак не дапушчаюцца і што патрэбная ім колькасьць жывёлы і мяса можа загатаўляцца толькі асноўнымі мясазагатоўшчыкамі Белмясгандлем і Беларускім Сельска-Гаспадарчым Саюзам, заключыўшы з апошнімі адпаведныя дагаворы.

2. Акруговыя інспэктары гандлю, рэгіструючы прыватных асоб (мясазагатоўшчыкаў), якія прыязджаюць у тую ці іншую акругу з іншых саюзных рэспублік, а таксама і з іншых акруг БССР для загатоўкі жывёлы і мяса на вываз за межы БССР і ў гарады БССР, вызначаюць для апошніх раёны загатовак, парадак вядзеньня імі загатовак і бяруць падпіскі аб захаваньні існуючых канвенцыйных загатоўчых цэн, а калі ёсьць мясцовыя мясныя канвэнцыі з удзелам прыватных асоб, то абавязваюць падпісаць такую. Калі прыватныя асобы адмовяцца выконваць пералічаныя правілы, то акруговыя інспэктары гандлю адмаўляюць апошнім у рэгістрацыі.

3. Прыватныя асобы, якія займаюцца дробным гандлям мяса ў мястэчках і гарадох раённага значэньня і загатаўляюць жывёлу і мяса толькі для свайго дробнага гандлю, павінны рэгістравацца ў раённых выканаўчых камітэтах, а калі-ж гэтыя асобы адначасна зьяўляюцца скупшчыкамі жывёлы для прыватных мясазагатоўшчыкаў на вываз за межы БССР або самі дастаўляюць жывёлу ў гарады

БССР, павінны рэгістравацца ў акруговых інспэктароў гандлю.

4. Раённыя выканаўчыя камітэты, рэгіструючы прыватных асоб, якія займаюцца мясным гандлям, паводле п. 3 гэтай інструкцыі, біруць ад апошніх падпіскі аб неперавышэньні імі пры закупцы жывёлы існуючых канвэнцыйных загатоўчых цэн.

5. Акруговыя інспэктары гандлю і раённыя выканаўчыя камітэты павінны наглядаць за загатоўчаю дзейнасьцю прыватных загатоўшчыкаў і, выявіўшы асоб, у якіх няма даведкі аб рэгістрацыі ў акруговых інспэктароў гандлю або ў раённых выканаўчых камітэтах, прыцягваюць іх да адказнасьці паводле п. 4 пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 18 лістапада г.г. № 60.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Ст. Інспэктар па Сельска-Гаспадарчых Прадуктах Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Скакоўскі.**

Узгоднена з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР:

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

18 лістапада 1927 г.
№ 8-251/3.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ АБВЯШЧЭНЬНІ ВЫПІСУ З ЗАГАДУ НК ГАНДЛЮ СССР ЗА 7 КАСТРЫЧНІКА 1927 г.

Народны Камісарыят Гандлю БССР пры гэтым абвяшчае для ведама і кіраваньня дзяржаўных і кааперацыйных арганізацый наступны выпіс з загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 7-га кастрычніка 1927 г.:

„1. Установіць наступныя максымальна-гранічныя адпускныя цэны за тону высока-гатунковага гаспадарчага мыла з зьмяшчэньнем тлушчавых кіслот ня менш 60 проц., франко станцыя адпраўкі або прыстань:

а) якое выробляецца Ленінградзкім Дзяржаўным Тлушчавым Трэстам з назваю: „Нестор“, „Экономия“, „ТЭЖЭ“ у адпаведным кардонным пакаваньні—565 руб., зьніжэньне у сярэднім на 5 проц.;

б) якое выробляецца Трестам “Жиркость“ з назваю „Бон“ без пакаваньня—475 р., зніжэньне 5 проц.

2. Для папаўненьня гандлёвых і накладных выдаткаў, зьвязаных з рэалізацыяю высока-гатунковага мыла, устанаўляецца абавязковая мінімальная скідка 1 проц. з цэн, памянёных у п. 1 для Цэнтрасаюзу, Цэрабсэкцыі, Транспосэкцыі МСПО, Вукаспілкі, ЛСПО і інш. цэнтральных кааперацыйных і абласнога масштабу арганізацый.

3. Абавязаць памянёныя ў п. 2 дзяржаўныя і кааперацыйныя арганізацыі адпушчаць высока-гатунковае мыла ніжэйшым за іх арганізацыям па цэнах, паказаных у п. 1 гэтага загаду“.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **З. Мазо.**

17 лістапада 1927 г.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ АБВЯШЧЭНЬНІ ВЫПІСУ З ПАСТАНОВЫ НК ГАНДЛЮ СССР ЗА 16/XI 1927 г.

1. Для зьмены абвешчаных Народным Камісарыятам Гандлю БССР 7/IX і 12/XI 1927 г. устаноўленых Народным Камісарыятам Гандлю СССР за 10/VIII і за 12/X 1927 г. стандартаў на таварную пшанічную і жытнюю гатунковую муку, якая перапрацоўваецца на дзяржаўных, капэрацыйных і прыватных млынных прадпрыемствах для ўнутраных рынкаў (апублікаваных у „Белкта" за 13/IX 1927 г., № 70, і за 12/XI 1927 г., № 87), Народны Камісарыят Гандлю БССР гэтым абвяшчае для ведама і няўхільнага выкананьня наступны выпіс з пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 16/XI 1927 г.:

„1. Для зьмены пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10/VIII 1927 г. і за 12/X 1927 г. № 252 устанавіць для усіх дзяржаўных, капэрацыйных і прыватных млынных прадпрыемстваў трохгатунковы стандартны памол пры перапрацоўцы мяккай пшаніцы з прымешкаю жыта з разрахунку 15 проц. на кожныя 85 проц. чыстай пшаніцы з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выходамі:

1-ы гатунак—30 проц.
2-і гатунак—30 „
3-і гатунак—20 „

з абавязковымі выхадамі мукі з зярна ня менш 80 проц. пры адпаведных разьліковых кандыцыях зярна.

2. Асноўнаю адзнакаю, якая характарызуе якасьць мукі і адпаведнасьць яе стандарту, прызнаць зольнасьць.

3. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для 3-х гатунковага памолу, паказанага ў п. 1-м:

1-ы гатунак—0,55 проц.
2-і гатунак—0,80 „
3-і гатунак—2,25 „

4. Дазволіць перапрацоўку пшаніцы (з мешаніны цьвёрдай і мяккай) на 3-х гатунковы стандартны памол з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1-ы гатунак—15 проц.
2-і гатунак—45 „
3-і гатунак—15 „

з абавязковым агульным выхадам мукі з пшаніцы ня менш 75 проц. пры ўстаноўленых разьліковых базісах.

5. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для паказанага ў п. 4-м 3-х гатунковага стандартнага памолу:

1-ы гатунак—0,50 проц.
2-і гатунак—0,80 „
3-і гатунак—2,10 „

6. Дазволіць млынным прадпрыемствам, якія перапрацоўваюць пшаніцу для Закаўказьзя, выпускаць на рынак муку мясцовага пшанічнага трохгатунковага памолу з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1-ы гатунак—40 проц.
2-і гатунак 25 „
3-і гатунак--15 „

7. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для паказанага ў п. 6 мясцовага для Закаўказьзя памолу:

1-ы гатунак—0,55 проц.
2-і гатунак—1,10 „
3-і гатунак—2,30 „

8. Дазволіць млынным прадпрыемствам, якія перааапрацоўваюць пшаніцу для Сярэдняй Азіі, выпускаць на рынак муку мясцовага трохгатунковага памолу з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1-ы гатунак—50 проц.
2-і гатунак—10 „
3-і гатунак—20 „

9. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для паказанага ў п. 8 мясцовага для Сярэдняй Азіі памолу:

1-ы гатунак—0,60 проц.
2-і гатунак—1,10 „
3-і гатунак—2,25 „

10. Дазволіць млынным прадпрыемствам, якія перааапрацоўваюць пшаніцу для Уральскай вобласьці, выпускаць на рынак муку мясцовага 2-х гатунковага памолу з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1-ы гатунак—40 проц
2-і гатунак—40 „

11. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для паказанага ў п. 10 мясцовага для Уралу памолу:

1-ы гатунак—0,55 проц.
2-і гатунак—1,55 „

12. Дазволіць млынным прадпрыемствам, якія перааапрацоўваюць пшаніцу для Крыму, выпускаць на рынак муку мясцовага 2-х гатунковага памолу з наступнымі суадносінамі гатункаў і арыентыровачнымі выхадамі:

1-ы гатунак—60 проц.
2-і гатунак—20 „

13. Устанавіць наступныя гранічныя нормы зольнасьці для паказанага ў п. 12 мясцовага для Крыму памолу:

1-ы гатунак—0,68 проц.
2-і гатунак—2,30 „

14. Дазволіць на дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынных прадпрыемствах перапрацоўку пшаніцы ў аднагатунковую муку з абавязковым выхадам ня менш 80 проц.

15. Устанавіць гранічную норму зольнасьці для аднагатунковай пшанічнай мукі 1 проц.

16. Увесьці ў дзеяньне гэтую пастанову з 1-га сьнежня 1927 г на ўсёй тэрыторыі СССР“.

II. Гэтая пастанова не пашыраецца на ўстаноўленыя Народным Камісарыятам Гандлю СССР за 10/VIII—1927 г. стандарты на таварную жытнюю муку (апублікаваныя ў „Белкта“ за 13/IX—1927 года, № 70), якія ня могуць зьмяняцца.

III. Нагляд за выкананьнем паказанай вышэй пастановы, а таксама за якасьцю прадукцыі, што выпускаецца памянёнымі ў гэтай пастанове млыннымі прадпрыемствамі, ускладаецца на акруговую інспэкцыю гандлю і Дзяржаўную Хлебную Інспэкцыю, якія, выявіўшы злачынствы млынных прадпрыемстваў ў гэтай галіне, прыцягваюць вінаватых да судовай адказнасьці паводле арт. арт. 106 і 141 Крым. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Інспэктар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Л. Галкін.**

30 лістапада 1927 г.

---

## Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ АБВЯШЧЭНЬНІ ВЫПІСУ З АБЕЖНІКУ НК ГАНДЛЮ СССР ЗА 10-Х 1927 г.

I. Гэтым абавяшчаецца для ведама і выкананьня дзяржаўнымі, каперацыйнымі і прыватнымі млыннымі прадпрыемствамі БССР наступны выпіс з абежніку Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10-Х—1927 г. № 1490 „Аб устанаўленьні нормы зольнасьці для абойнай мукі з выхадам 95 проц“:

„Для палепшаньня якасьці жытняй абойнай мукі і магчымасьці праверкі адпаведнасьці яе стандартным нормам, Народным Камісарыятам Гандлю СССР устанаўляюцца наступныя адзнакі ў адносінах да зольнасьці і буйнасьці памолу абойнай мукі:

1. Устанавіць для абойнай мукі, прадугледжанай пастановаю Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10-VII г. г., п. 9 (апублікованай у „Белкта“ за 13-IX г. г., № 70), зольнасьць да сухой матэрыі 1,9 проц.“

2. Для зьмены п. 1 разьдзелу „б“ інструкцыі аб ужываньні стандартаў, буйнасьць памолу абойнай мукі характарызаваць толькі праходам праз сіта № 24 з астачаю на сіце ня больш 1,5 проц“.

II. Нагляд за выкананьнем паказанага вышэй абежніку ўскладаецца на акруговую інспэкцыю Гандлю і Хлебную Інспэкцыю, якія, выявіўшы парушэньне млыннымі прадпрыемствамі гэтага абежніку, павінны прыцягваць апошніх да судовай адказнасьці паводле арт. арт. 106 і 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **З. Мазо.**

12 лістапада 1927 г.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**